Дняроўская СТРОМА
№ 14 снежань 2012 г.
Выдаецца з мая 2012 г.
ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»



# Юбілейная вечарына

3 снежня 2012 года ў Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і вольнага часу адбылася святочная вечарына з нагоды 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа. Вечарыну арганізавалі аддзел культуры Магілёўскага гарвыканкама, Магілёўская харавая капэла і Магілёўскае аддзяленне Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.



Выступае Алесь Казека

Гасцямі вечарыны былі ўнучка Якуба Коласа Марыя Міхайлаўна Міцкевіч і дырэктар філіяла Дома-музея Я.Коласа ў Мікалаеўшчыне Соф'я Пятроўна Міцкевіч. Яны распавялі пра жыццё народнага песняра, пра асаблівасці захавання яго спадчыны, а таксама пра свае радаводы і нашчадкаў Я.Коласа. Было шмат пытанняў ад прысутных, і на кожнае з іх быў дадзены змястоўны адказ.



Святлана Казека. Тамара Аўсяннікава і Алесь Казека

Была зроблена цікавая відэапрэзентацыя пра Я. Коласа, гучалі яго вершы. Знакамітыя магілёўскія музычныя гурты выканалі народныя спевы. Вядомы магілёўскі паэт Алесь Казека, паэтычнае майстэрства якога фарміравалася пад уплывам паэзіі Якуба Коласа, прачытаў урывак са сваёй паэмы "Час сяўбы". Кампазітар Мікола Яцкоў спецыяльна для вечарыны падрыхтаваў зборнік "Родныя вобразы" з песнямі на вершы Коласа, дзве з якіх і прагучалі са сцэны. М.Міцкевіч, запэўніла, што гэтыя творы годна папоўняць фонды і экспазіцыі Дома-музея Я.Коласа.



Мікола Яцкоў



Яраслаў Клімуць, Марыя Міцкевіч, Вольга Багачова і Алег Дзьячкоў



Алесь Казека, Соф'я Міцкевіч, Мікола Яцкоў, Ала Яцкова, Марыя Міцкевіч і Яраслаў Клімуць




Сяргей ПІСЬМЕННЫ.

Фотаздымкі А.Асіпцова, М.Яцкова і А.Яцковай.

# ВЕКАПОМНАСЦЬ

5 снежня 2012 г. у Бабруйску адбылася падзея, якая ўвайшла ў гісторыю культурнага жыцця не толькі магілёўскага рэгіёна: гарадской бібліятэцы № 4 было прысвоена імя вядомага беларускага пісьменніка Барыса МІКУЛІЧА.



( Заканчэнне на с.2-3 )

# Нарадзіліся ў снежні



► Споўнілася 90 год Івану Кузьмічу СІЎЦОВУ – беларускаму пісьменніку і грамадскаму дзеячу, члену СП з 1949 г.

Нарадзіўся 27 снежня 1922 г. у в. Бакунавічы Чэрыкаўскага раёна ў сялянскай сям'і. У 1940 г. закончыў Чэрыкаўскую СШ і паступіў у Ленінградскае авіятэхнічнае вучылішча. У гады Вялікай Айчыннай вайны ваяваў пад Сталінградам. Захварэўшы туберкулёзам, дэмабілізаваўся і вярнуўся на радзіму. Працаваў у Чэрыкаўскім райкаме партыі. У 1948 г. закончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП Беларусі. У 1948 – 1950 гг. працаваў інструктарам, загадчыкам сектара друку Магілёўскага абкама КПБ. Пераехаўшы ў Мінск, працаваў у часопісах "Бярозка", "Беларусь".

Першыя апавяданні і абразкі пачаў пісаць яшчэ ў школьныя гады. Некалькі паэтычных твораў змясціў у франтавым друку. У рэспубліканскім друку пачаў выступаць з 1947 г. У 1949 г. выйшла першая кніга для дзяцей "Самыя юныя", у 1960 г. – раман "Нягоды і радасці". Займаўся перакладамі.

9 лістапада 1959 г. І.К. Сіўцоў памёр у Мінску, пахаваны на Усходніх могілках.



► Споўнілася 85 год Івану Цярэнцьевічу БУРСАВУ – паэту, перакладчыку.

Нарадзіўся 19 снежня 1927 г. у г. Клімавічы ў сям'і ваеннаслужачага. Адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны пачаў свой працоўны шлях счэпшчыкам вагонаў на Чэлябінскім металургічным заводзе. Потым быў саставіцелем цягнікоў на Мінскім трактарным прадпрыемстве. Адначасова вучыўся ў школе рабочай моладзі і наведваў літаратурнае аб'яднанне пры газеце "Знамя юности". Скончыў Літаратурны інстытут імя А.М. Горкага ў Маскве. Быў рэдактарам аддзела прозы ў часопісе "Нёман". У 1965 г. пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Маскву і стаў працаваць у выдавецтве "Молодая гвардия".

Пачаў друкавацца ў 1953 г. у заводской шматтыражцы. Выдаў шэраг паэтычных і празаічных зборнікаў, кніг вершаў і казак для дзяцей. Перакладае творы беларускіх і ўкраінскіх паэтаў на рускую мову. На словы Івана Бурсава напісаны песні.

Узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.



► Споўнілася 60 год Уладзіславу Якаўлевічу РУБАНАВУ – празаіку.

Нарадзіўся 15 снежня 1952 г. у в.Александраўка-1 Слаўгарадскага раёна ў сям'і настаўніка. Закончыў Аляксандраўскую васьмігодку, Слаўгарадскую СШ, факультэт журналістыкі БДУ. З 1975 г. працаваў у старадарожскай раённай газеце "Поступ Кастрычніка".

# Нарадзіліся ў снежні

3 1978 г. У.Рубанаў працуе ў аддзеле прозы часопіса "Полымя", з 1986 г. – загадчыкам рэдакцыі прозы выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Член СП Беларусі з 1982 г.

У друку выступаў з 1972 г. Стала творчай працай пачаў займацца з 1976 г. Першая кніга – "Вокны без фіранак" – выйшла ў 1981 г. Стварыў паэтычны вобраз Мінска ў аповесці "Каштаны". Аўтар рамана "Не аднойчы забіты". У 1990 г. за кнігу "Таямніца птушынага гнязда" ўдастоены звання лаўрэата Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя І. Мележа.

У.Я. Рубанаў памёр 21 ліпеня 1994 г. у Мінску, пахаваны ў в. Міхнавічы Мінскага раёна.

- 1 снежня 1951 г. у пас. Градзянка Асіповіцкага раёна нарадзілася Таіса Канстанцінаўна ГРАМАДЧАНКА – крытык, літаратуразнавец.
- 12 снежня 1918 г. у мястэчку Гайшын Быхаўскага павета (цяпер Слаўгарадскі раён) нарадзіўся Кастуць Ціханавіч КІРЭЕНКА – паэт, празаік, публіцыст, перакладчык.
- 18 снежня 1935 г. у в. Вялікія Лазіцы Шклоўскага раёна нарадзілася Ніна Васільеўна ГАЛІНОЎСКАЯ – паэтэса.
- 19 снежня 1920 г. у пас. Камінтэрн Бабруйскага раёна нарадзілася Ганна Антонаўна СОНДАК – літаратуразнавец, педагог.
- 21 снежня 1934 г. у в.Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна нарадзіўся Іван Гаўрылавіч ЧЫГРЫНАЎ – празаік, драматург, Народны пісьменнік Беларусі.
- 23 снежня 1906 г. у в.Радучы Чавускага павета нарадзіўся Кастусь Лявонцьевіч ГУБАРЭВІЧ – драматург.
- 26 снежня 1938 г. у в. Расна Горацкага раёна нарадзіўся Барыс Міхайлавіч КАЗАНАЎ – празаік.
- 27 снежня 1949 г. у г.Крычаў нарадзілася Людміла Васільеўна ЗАБАЛОЦКАЯ – паэтэса.
- 28 снежня 1953 г. у г.Крычаў нарадзіўся Уладзімір Уладзіміравіч ДУКТАЎ – празаік.



Встречи по интересам

**«Собеседник» собирает друзей**

**Открылся новый сезон в клубе интересных встреч «Собеседник», созданном при центральной городской библиотеке. Первое заседание провел журналист и поэт, член клуба Эдуард Медведский.**

Собравшиеся с интересом слушали его рассказ о жизни и творчестве писателей Корнея Чу-

Запоминающаяся получилась и встреча со славгородским поэтом, участником Великой Отечественной войны, в прошлом геологом Феликсом Шкирмановым. Он увлекательно рассказывал о своей жизни, читал стихи. Своим творчеством делились и сами участники клуба, увлеченные поэзией: В. Жевняк, Л. Осипова, А. Король, а также приглашенная на эту встречу поэтесса Серафима.

встречу поэтесса Серафима.

Впереди у членов клуба «Собеседник» еще много интересных заседаний, экскурсий и поездок по историческим местам Могилевщины.

**Зинаида ГОРОДНИЦКАЯ, член клуба «Собеседник»**

ВЕСНІК МАГІЛЁВА. Газета Могилевского городского исполнительного комитета. №98/18350. СРЕДА. 5 декабря 2012 года. Цена 1200 руб. Издается с января 1990 г. www.vestnikmogileva.by

*Сустрэча з Ф.Шкірманковым адбылася 16 лістапада 2012 г. ( гл. "Дняпроўская строма" № 12 )*

# ВЕКАПОМНАСЦЬ






Фота Вольгі Асоскінай

*Супрацоўнікі бабруйскай гарадской бібліятэкі № 4 імя Б.М.Мікуліча*

5 снежня 2012 г. гарадской бібліятэцы № 4 г. Бабруйска было прысвоена імя пісьменніка, нашага земляка, Барыса Мікуліча.

Наша сённяшняе інтэрв'ю з загадчыцай бібліятэкі Святланай Віктараўнай Калюта – пра асобу Барыса Мікуліча, лістах з сібірскай ссылкі і пра тое, як шануюць яго памяць у далёкай Сібіры.

– Чаму менавіта ваша бібліятэка стала займацца ушанаваннем імя Барыса Мікуліча?

– З 1993 года наша бібліятэка працуе ў краязнаўчай накіраванасці. Таму, калі мне ў свой час прапанавалі «папрацаваць» над чыім-небудзь імем, мы асабліва не разважалі. Хацелася б, каб чалавек, імя якога будзе насіць бібліятэка, быў пісьменнікам, нарадзіўся, працаваў тут. І мой выбар, выбар калектыву спыніўся на Мікулічы. Па-першае, ён ураджэнец Бабруйска, акрамя таго, што ён наш зямляк, пісьменнік, журналіст, – ён яшчэ і наш калега. Ён двойчы працаваў у нашай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна.



*Барыс Міхайлавіч МІКУЛІЧ*

– Як даўно вы сталі збіраць матэрыялы аб нашым земляку?

– У гэтым напрамку мы пачалі актыўна працаваць з 2007 года.

З Сібіры, сяла Машукоўка, дзе пахаваны наш зямляк, прыйшоў ліст ад Міхаіла Захарцова. Ён – гісторык, краязнаўца і збірае матэрыялы пра Мікуліча.

У сваім лісце ў Бабруйск ён пытаўся: якая праца вядзецца ў гэтых адносінах у нас? Мы сталі з ім перапісвацца, абменьвацца матэрыяламі. Ён даслаў мне частку лістоў Барыса Мікуліча з сібірскай ссылкі, адрасаваных пісьменнікам, сваім родным і сябрам. А потым я звярнулася ў Мінскі архіў літаратуры і мастацтва. Знайшла там яшчэ лісты і стварыла на іх аснове брашуру «Лісты з сібірскай ссылкі».

– Якім чалавекам паўстае Барыс Мікуліч у гэтых лістах?

– Гэта быў вельмі шчыры, прыстойны, таленавіты, з пачуццём гумару, чалавек. У яго лістах можна сустрэць апісанне побыту, страшных, цяжкіх сібірскіх зім. Напрыклад, родныя неяк адправілі яму пасылкай яблыкі. Пакуль яны дайшлі, то змерзлі, бо на двары быў мароз – 40-50 градусаў. Але ён казаў, што нават такія, мярожаныя яблыкі – былі для іх дэлікатэсам.

Мікуліч вельмі жыва цікавіўся, колькі чаго каштуе ў Беларусі, часам звяртаўся з просьбамі. У асноўным, прасіў кнігі – іх няма дзе было дастаць.

Дарэчы, лісты з лагераў не захаваліся, толькі яго перапіска з ссылкі, у перыяд з 1946 па 1954 гады.

Пра сваё жыццё ў лагерах ён крыху распавядае ў кнізе "Аповесць для сябе», напісанай у выглядзе дзённіка.

Дзённік ён вёў і ў Машукоўцы, у другой ссылцы, але ён не захаваўся.

– Як у Сібіры шануюць памяць нашага земляка?

– Там знаходзіцца яго магіла, – ён быў пахаваны ў 1954 годзе. А ў 2002 годзе да 90-годдзя яму ўсталявалі помнік. Па словах Захарцова, да 100 гадовага юбілею яны хочуць гэты помнік палепшыць.

Барыса Мікуліча пры жыцці вельмі паважалі, ён быў там даволі вядомым чалавекам, і памяць пра яго шануюць у тых месцах да гэтага часу.

Міхаіл Захарцоў стварае музей гісторыі пасёлка. І асобная экспазіцыя ў ім будзе прысвечана Мікулічу. Я спадзяюся, што наша супрацоўніцтва з машуковскім краязнаўцам будзе працягвацца, што, быць можа, з часам, да нас прыедуць з Сібіры, і мы таксама туды паедзем.

– Раскажыце крыху пра экспазіцыю, якая знаходзіцца ў вашай бібліятэцы.



АНКЕТА АРЕСТОВАННОГО

Фамилия: Микулич

Имя, отчество: Борис Михайлович

Дата рождения: число "26" месяц августа год 1912

Место рождения: г. Бобруйск БССР

Местожительство (адрес): Минск Краснозвездная 7 кв.

Профессия и специальность: литератор

Михайлович. 1912. Место рождения г. Бобр.

ПРАВАЯ РУКА: 1. Большой | 2. Указательный | 3. Средний | 4. Безымянный | 5. Мизинец

ЛЕВАЯ РУКА

КОНТРОЛЬНЫЕ ОТТИСКИ: Левой руки | Правой руки

*У бібліятэчнай экспазіцыі дэманструюцца архіўныя дакументы з асабістай справы Б.М.Мікуліча*

# ВЕКАПОМНАСЦЬ

– Экспазіцыя, прысвечаная Барысу Мікулічу, называецца "Вечна малады пакутнік». Тут прадстаўлены копіі дакументаў з адбіткамі пальцаў нашага земляка, якія былі знойдзены ў Краснаярскім КДБ. У Бабруйскім і Мінскім КДБ я знайшла анкету, складзеную на Мікуліча, пратаколы допытаў.

Барыс Мікуліч, можна сказаць, выкарыстоўваў кожную вольную хвілінку, каб пісаць ці чытаць. Пісаў на любым кавалачку паперы. Ён быў бы, дарэчы, выдатным крытыкам беларускай літаратуры.

У экспазіцыі ёсць яго рэцэнзія на кнігу Пастэрнака, якую ён напісаў на «рапартычцы», – апошнія гады ён працаваў дыспетчарам ў леспрамгасе.

Ёсць тут і рэпертуары, якія ён складаў, працуючы ў мясцовым клубе.

Прадстаўлены яго лісты, брашуры, якія мы выдавалі, сямейныя фатаграфіі.

Не так даўно нам падарылі сто кніг з асабістага архіва сясцёр пісьменніка – Яўгеніі, Тамары і Марыі. Іх таксама можна ўбачыць тут.

– Якія кнігі Барыса Мікуліча ёсць у вашай бібліятэцы?

– «Палеская аповесць», «Выбранае», кніга, у якой сабраны тры аповесці: «Стойкасць», «Развітанне», «Цяжкая часіна» і «Аповесць для сябе».

Даваенных кніг, на жаль, у нашай бібліятэцы няма, таму з гэтымі творамі мы амаль незнаёмыя.

Нельга сказаць, што Барыс Мікуліч як пісьменнік зусім забыты, але так атрымалася, што яго не вывучаюць у рамках школьнай праграмы. І мы робім усё, каб яго імя было ўшанавана ў Бабруйску, каб землякі ведалі і памяталі пра яго.



Форма 13

РАПОРТИЧКА №

сортировки и укладки в штабеля лесопродукции

по

Смена — 194 г.

О Б. Пастернаке

Проф. С. М. Боура („Британский союзник", №5, 1962)

„Пастернак сохранил свою замечательную восприимчивость ко всему зримому, свой великий талант передачи ощущений с удивительной точностью, однако время и опыт смягчили черты его характера, сделали его не такими резкими и строптивыми, какими они были

Аўтограф Барыса Мікуліча

*НАША ДАВЕДКА: Барыс Міхайлавіч Мікуліч нарадзіўся 19 жніўня 1912 года ў Бабруйску. З 1929 года працаваў у бабруйскай газеце «Камуніст», затым у дзяржаўным выдавецтве БССР і ў газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Пачаў друкавацца з 1927 года. Выдаў зборнікі апавяданняў «Удар», «Чорная вірня» (1931 г.), «Карунд» (1935 г.), аповесці «Наша сонца» і «Украіна» (1932 г.), «Стойкасць (1934 г.), «Дружба» (1936 г.).*

*У 1936 годзе Б.Мікуліч быў арыштаваны па ілжывым абвінавачванні і асуджаны на 10 гадоў. У 1947 годзе вярнуўся ў Беларусь; судзімасць была знятая. У 1949 годзе пісьменнік быў ізноў арыштаваны і сасланы ў Сібір. Памёр у 1954 годзе.*

## Знаходка, якая стала сенсацыяй

Дзіўную гісторыю распавяла нам загадчыца бабруйскай гарадской бібліятэкі № 4 С. В. Калюта. Справа ў тым, што ўжо на працягу некалькіх гадоў супрацоўнікі бібліятэкі карпатліва збіраюць матэрыялы пра жыццё і творчасць Барыса Мікуліча, літаральна па крупінках шукаюць звесткі ў архівах, распытваюць бабруйскіх старажылаў, вядуць перапіску са школьным музеем вёскі Машукоўка Краснаярскага краю, дзе жыў і працаваў пісьменнік у апошнія гады свайго жыцця.

І раптам – нечаканая ўдача! У пачатку сакавіка 2012 г. бабруйчанін Кірыл Пятровіч Шынкарэнка перадаў у дар бібліятэцы кнігі з хатняй бібліятэкі, якая дасталася яму ад бацькоў. На тытульным лісце адной з кніг ўвагу бібліятэчных работнікаў прыцягнуў экслібрыс «Асабістая бібліятэка Мікуліч М. М.» Пасля ўважлівага разгляду усіх кніг не засталося ніякіх сумневаў – гэта частка сямейнай бібліятэкі Мікулічаў, пісьменніка Барыса Мікуліча і яго сясцёр Тамары, Марыі і Яўгеніі. Да прыкладу, на тытульным лісце рамана Шолахава «Узнятая цаліна» ёсць роспіс, зроблены рукой пісьменніка, на іншых кнігах – роспісы яго сясцёр. Сярод гэтых кніг – два выдання Барыса Мікуліча – аповесці «Стойкасць», «Развітанне», «Цяжкая часіна», а таксама «Выбранае».




С.В.Калюта дэманструе кнігу з аўтографам Барыса Мікуліча. Фота А.Чугуева.

– *Можна толькі здагадвацца, як кнігі з бібліятэкі Мікулічаў трапілі да Кірылы Пятровіча Шынкарэнкі,* – выбудоўвае сваю версію Святлана Віктараўна Калюта. – *Хутчэй за ўсё, Мікулічы падарылі сваю бібліятэку блізкім сябрам ці добрым суседзям. А жылі яны калісьці ў прыватным доме на скрыжаванні вуліц Шмідта і Мінскай... Нізкі паклон людзям, якія захавалі бібліятэку! Магчыма, нехта з бабруйчан памятае сям'ю пісьменніка і самога Барыса Мікуліча. Нам было б цікава пачуць такія ўспаміны...*

( http://komkur.info )

## Вуліцы Мікуліча і Грахоўскага могуць з'явіцца ў Бабруйску

Актывісты кампаніі за наданне ў Бабруйску двум мясцовым вуліцам імёнаў пісьменнікаў Барыса Мікуліча і Сяргея Грахоўскага заяўляюць, што ўлады пазітыўна адрэагавалі на іхную ініцыятыву.



Сяргей Грахоўскі

Днямі ініцыятарка кампаніі Вольга Піманава атрымала адказ на калектыўны зварот жыхароў Бабруйска. Падпісаны ён намеснікам начальніка аддзела архітэктуры і градабудаўніцтва Бабруйскага гарвыканкама Алегам Каранкевічам. У допісе гаворыцца, што падчас абмеркавання гарадской тапанімічнай камісіяй назваў новых вуліц будзе разгледжана і магчымасць надання вуліцам імёнаў пісьменнікаў Мікуліча і Грахоўскага.

В.Піманава камэнтуючы адказ чыноўнікаў зазначыла: *«Ёсць у нас спадзяванне, што наша ініцыятыва ажыццявіцца. Наданне вуліцам імёнаў Мікуліча і Грахоўскага закранула шмат бабруйцаў, якія неабыякавыя да гісторыі свайго горада, культуры. Мікуліч і Грахоўскі ўславілі сваёй творчасцю наш горад. Падтрымка нашай ініцыятывы — гэта праява патрыятызму жыхароў Бабруйска і імкненне да ягонай індывідуальнасці і адметнасці».*

Ідэю з наданнем вуліцам імёнаў Мікуліча і Грахоўскага падказаў у адным з сваіх лістоў вязень Бабруйскай калоніі пісьменнік Алесь Бяляцкі.

Пісьменнік Б.Мікуліч 10 гадоў адседзеў у лагерах. І С.Грахоўскаму наканавана было выжыць у сталінскім ГУЛАГу.

*Падрыхтавалі Вольга АСОКІНА, Галіна ЧЫРУК*

## ...изъ забвенія и праха.



Пратаіерэй Іван Грыгаровіч

У Магілёўскім мастацкім музеі імя П.Масленікава 13 снежня 2012 г. прайшоў вечар, прысвечаны 220-годдзю з дня нараджэння гісторыка і святара Івана Іванавіча Грыгаровіча, арганізаваны гарадскім аддзяленнем "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" і абласным краязнаўчым музеем імя Е.Раманава.

Вечарыну адкрылі вершам Максіма Багдановіча "Летапісец", напісаным 100 год таму, у 1912 годзе, і прысвечаным гісторыі Магілёва:

*Душой стаміўшыся ў жыццёвых цяжкіх бурах,*
*Свой век канчаю я ў манастырскіх мурах*
*І пільна летапіс другі ўжо год пішу:*
*Старанна літары малыя выводжу*
*І спісваю ўсё ад слова і да слова*
*З даўнейшых граматак пра долю Магілёва,*
*І добрые яго, і кепскія дзяла*
*Апавядаю тут.*

Адным з такіх летапісцаў Магілёўшчыны і ўсяго беларускага народа з'яўляецца Іван Грыгаровіч.

Пра вядомага святара, археолага, гісторыка, археографа, збіральніка рукапісаў па гісторыі Беларусі ўдзельнікам вечара распавёў настаяцель храма Пятра і Паўла ў вёсцы Лясная пратаіерэй Георгій Сакалоў. Паводле яго слоў, значэнне прац Івана Грыгаровіча найперш у тым, што ён жыў у складаны час пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі, і яго зацікаўленасць у гісторыі роднай мясцовасці ўспрымалася як сепаратызм.

*"Айцу Іаану ў гэтым плане было цяжкавата. Але былі пэўныя і светлыя бакі яго дзейнасці, бо ў яго былі высокапастаўленыя апекуны, якія разумелі важнасць яго працы",* – сказаў святар. Адным з такіх апекуноў быў граф Мікалай Румянцаў, які дапамагаў Грыгаровічу ў яго навуковых пошуках.

Ураджэнец Прапойска (цяпер Слаўгарад) Іван Грыгаровіч, які скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю, больш жыў і працаваў у Гомелі. Ён збіраў і апрацоўваў тэксты рукі свяціцеля Георгія Канískага, выдаў першы беларускі археаграфічны збор крыніц – "Беларускі архіў старажытных грамат".

*– І калі расійская археаграфія пачалася ў часы Кацярыны ІІ, то беларускай да Івана Грыгаровіча наогул не было. Ён яе бацька,* – сцвярджае настаяцель храма ў Лясной.

Таксама трэба адзначыць, што Магілёўскім абласным краязнаўчым музеем імя Е.Раманава была падрыхтавана кніжная выстава твораў Грыгаровіча, сярод якіх унікальнае выданне – першая праца І.Грыгаровіча: дысэртацыя пра наўгародскіх пасаднікаў, выдадзеная ў 1821 г.




Мікола Яцкоў перадае матэрыялы айцу Георгію

Напрыканцы вечарыны паэт і кампазітар, старшыня Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў перадаў айцу Георгію копіі рэдкіх публікацый пачатка XX стагоддзя аб планах будаўніцтва храма ў в.Лясная і аб святкаванні ў 1908 г. 200-годдзя бітвы пры Лясной.

Пасля завяршэння імпрэзы магілёўцы яшчэ доўга не адпускалі айца Георгія дахаты – фатаграфаваліся з ім, размаўлялі.

*Юрась КАЛАСОЎСКІ.*
("Наша слова", 26.12.2012 г.)
Гравюра А.Янава.

# НОВАЯ СУСТРЭЧА

13 снежня 2012 года у магілёўскую гарадскую цэнтральную бібліятэку імя К.Маркса на сустрэчу з творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа прыйшлі вучні школы № 33. Яны ўважліва паслухалі прапанаваную прэзентацыю, якую правялі бібліятэкары Ірына Цінякова, Святлана Міхальчук і Марына Барысава. Артыстка народнага тэатра Па-





Ірына Цінякова і Святлана Міхальчук



Аліна Кісялёва

Марына Барысава



Ала і Мікола Яцковы

лаца культуры вобласці Аліна Кісялёва выканала некалькі вершаў Я.Купалы. Старшыня Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў расказаў пра асаблівасці паэзіі двух вялікіх беларускіх песняроў. У выкананні Міколы і Алы Яцковых прагучала некалькі песен на вершы Купалы і Коласа.

**Аліна САВІЦКАЯ.**
Фота М.Яцкова і М.Барысавай

Наша слова № 52 (1099) Дыярыюш 5
26 СНЕЖНЯ 2012 г.

## Магілёўскія школьнікі сустрэліся з творамі Купалы і Коласа

13 снежня ў магілёўскую Цэнтральную гарадскую бібліятэку на сустрэчу з творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа прыйшлі вучні школы № 33.

Яны азнаёміліся з прэзентацыяй, якую прадэманстравалі бібліятэкары Ірына Цінякова, Святлана Міхальчук і Марына Барысава.



Артыстка народнага тэатра Палаца культуры вобласці Аліна Кісялёва выканала некалькі вершаў Купалы.

Старшыня Магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў расказаў пра адметнасці паэзіі двух вялікіх беларускіх песняроў. У выкананні Міколы і Алы Яцковых прагучала некалькі песень на вершы Купалы і Коласа.

*Ул. інф. магілёўскага аддзялення СБП.*

Інфармацыю пра гэту падзею змясціла на сваіх старонках газета “Наша слова” ( № 52, 26 снежня 2012 г. )



# Я з векам выйшаў на спатканне...

*Я з векам выйшаў*
*на спатканне,*
*Душою шчыры, як дзіцё —*
*Хачу вясны і красавання*
*Усяму, што поўніцца*
*жыццём…*

З гэтых вершаваных радкоў вядомага магілёўскага паэта Васіля Васільевіча Карпечанкі (1925—2005) супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры магілёўскай абласной бібліятэкі 18 снежня 2012 г. пачалі вечарыну памяці паэта "Я з векам выйшаў на спатканне". Вечарына была арганізавана ў Доме ветэранаў па ініцыятыве Соф'і Нікіцічны Слабкоўскай, ветэрана вайны і працы, загадчыцы музея гэтай установы.

В. В. Карпечанка прайшоў франтавымі дарогамі Вялікай Айчыннай вайны, атрымаў раненні. Быў узнагароджаны ордэнамі Славы III ступені, Айчыннай вайны I ступені, медалём “За адвагу”. Сорак пяць гадоў працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры Рэчкаўскай сярэдняй школы Магілёўскага раёна. Быў членам Саюза пісьменнікаў БССР, ачольваў магілёўскае Бюро прапаганды мастацкай літаратуры гэтага Саюза. Выдаў больш за дзесяць кніг паэзіі, у тым ліку творы для дзяцей.



Васіль Васільевіч Карпечанка

Для ветэранаў вайны і працы,



Выступае Мікола Яцкоў



Ветэраны ўважліва слухаюць...



моладзі, запрошаных на мерапрыемства, у выкананні навучэнцаў сярэдняй школы № 45 прагучаў аповед аб жыцці і творчасці паэта. У вечарыне прыняў удзел старшыня Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў, які распавёў аб сяброўстве з В.Карпечанкам і аб творчым супрацоўніцтве з гэтым непаўторным чалавекам. У выкананні Міколы і Алы Яцковых прагучала некалькі песен на вершы Васіля Карпечанкі.

З літаратурнай спадчынай паэта пазнаёміла кніжная выстава "З любоўю да роднай зямлі", падрыхтаваная супрацоўнікамі абласной бібліятэкі. Вучні школы № 19 уручылі шаноўным ветэранам святочныя віншаванні.

Паэтычная вечарына атрымалася цікавай і насычанай. Усе прысутныя мелі магчымасць яшчэ раз дакрануцца да незабыўнай творчасці Васіля Карпечанкі, імем якога нядаўна назвалі вуліцу ў новым раёне Магілёва. І ў каторы раз усе мы адчулі шчырасць і цеплыню роднага беларускага слова.

**Падрыхтавала Аліна САВІЦКАЯ.**

# Пайсці і застацца

Калі я тэлефанаваў Васілю Васільевічу Карпечанку, то ў нас заўсёды адбываўся традыцыйны дыялог:

-- Васіль Васільевіч, ну як вы там?

-- Ды кавараюся памаленьку!..

І ў гэтым вось *“кавараюся”* з'ядналася ўсё – і спрадвечныя сялянскія турботы на шырокіх рэчкаўскіх абсягах, і пісьменніцкія выступленні ў школах ды бібліятэках, і роздум над новымі вершамі, і ўспаміны аб мінулым. А ўспамінаць было што: салдацкі ордэн Славы звінеў нягучным набатам – пра акопную праўду ўперамежку з вымушанымі шпітальнымі “адпачынкамі”. І зноўку ў бой. І так было заўсёды.

І, відаць, уся неабсяжная прыгажосць свету, уварваўшыся праз карпечанкаўскія пытлівыя вочы ў ягонае сэрца, не магла не пакласціся ў напевы яго вершаў. Гэтыя вершы ніколі не былі мудрагелістымі, бо каб быць зразумелым патрабуецца красамоўная яснасць. А Васіль Васільевіч заўсёды імкнуўся, каб яго разумелі.

Асаблівую ўвагу ён надаваў нашаму будучаму – дзецям. І калі працаваў у Рэчкаўскай школе, і калі прысвячаў шмат свайго часу пачынаючым паэтам, і калі з дзедабарадзедаўскай інтанацыяй чытаў свае дзіцячыя вершы. І вельмі ганарыўся, што вершы тыя змешчаны ў школьных падручніках. Тут трэба адзначыць, што не кожны паэт здольны пісаць добрыя вершы для дзяцей, бо патрабуецца тут абвостранае адчуванне дзіцячага сусвету.

Васіль Васільевіч быў вельмі музычным чалавекам. Я гэта магу казаць вельмі ўпэўнена, бо рабіў песні на яго вершы. Калі ў верша няма мелодыі, то песня ніколі не атрымаецца. У радках Карпечанкі заўсёды гучала музыка – спачувальная, лагодная, насычаная сонцам і лугавымі водарамі. А калі там было пра вайну, то чулася кананада, бачыўся пыл франтавых дарог і віднелася хата з адзінокай матуляй, якая не дачакалася з фронту сваіх сыноў. Тут Васіль Васільевіч заўсёды быў вельмі рэльефным і пераканаўчым у дэталях і інтанацыях.

Ён не быў занадтым прыхільнікам лірыкі кахання і не раскідваў свае пачуцці шырокімі махамі. У адрозненні ад іншых паэтаў, ён, здаецца, саромеўся распавядаць пра сардэчныя справы. І наўрад ці было шмат у яго тых спраў, бо сэрца сваё Васіль Васільевіч аднойчы і назаўсёды аддаў сваёй адзінай і непаўторнай Галіне Самуілаўне. І спеўнае *“Галя, Галя, дарагая, зорка ясная мая...”* развінулася праз усё жыццё – да самага скону...

Я заўсёды здзіўляўся маторнай нястомнасці гэтага чалавека. У свае 70 і 75 дзед Васіль па-маладому ўлятаў у свае “Жыгулі” і некуды ляцеў са стосам сваіх, толькі што надрукаваных, кніжак – чытаць вершы, гутарыць, уважліва слухаць. Яму цікава было сярод людзей. І людзям было заўсёды цікава з ім.

Ён адчуваў сваю патрэбнасць. Ён ведаў, што нельга марнаваць час – асаблівa калі Божачка ўзвальвае на твае плечы цяжкі Крыж таленту. І ён з годнасцю пранёс гэты святы цяжар. І водбліскі Божай спавядальнасці пакладзіся на бронзавы твар паэта, які ўглядаецца ў айчынныя працягі са сцяны роднай школы.

Паэт Васіль Карпечанка застаўся з намі – у сваіх вершах і песнях. І ў нашых удзячных успамінах. Дзякуй яму за гэта!

**Мікола ЯЦКОЎ.**
12 снежня 2007 г.

# Справы і ўрачыстасці





Ніл Гілевіч
Збор твораў
у 23-х тамах

Мінск,
2011

Ніл Гілевіч
Збор твораў
Том 6
Паэзія
Творы для дзяцей
Вершы, вершаваныя апавяданні, паэма, байкі, небыліцы, загадкі

Мінск,
2011




**22** снежня 2012 г. адбылося чарговае пасяджэнне Магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Сябра аддзялення Тамара Аўсяннікава праінфармавала прысутных аб паездцы ў Мінск і сустрэчах з паэтамі Нілам Гілевічам і Васілём Жуковічам, якія падпісалі некалькі сваіх кніг Ялінцы Салаўёвай – адзінай вучаніцы адзінага беларускамоўнага класа СШ № 1 г. Магілёва. Т.Аўсяннікава ўручыла падарункі Я.Салаўёвай і прачытала свой верш, прысвечаны гэтай падзее.



Тамара Аўсяннікава

Ніл Гілевіч

Ялінцы Салаўёвай – у вялікую шчаслівую дарогу, з родным словам у сэрцы. Помні: на цябе глядзіць Беларусь.

Ніл Гілевіч
26.XI.12

Вельмішаноўная, дарагая, мілая Ялінка Салаўёва і ўсе яе родныя – з пачуццём гордасці, што ёсць такія людзі – вы, Салаўёвы, годныя, мужныя, улюбёныя ў родную мову. Для мяне вы – сумленне беларусаў.
Зычу вам моцнага здароўя, радасці і перамогі ў святой справе!

Васіль Жуковіч
25.11.2012



Ялінцы Салаўёвай уручаюцца падарункі



Яраслаў Клімуць. Мікола Яцкоў, Зміцер Салаўёў, Ялінка Салаўёва, Тамара Аўсяннікава, Таццяна Барысік, Аляксей Карпенка, Сяргей Украінка.

**Тамара АЎСЯННІКАВА**

*Нілу Гілевічу*
*Ялінцы Салаўёвай*

То не вецер ломіць,
Не маланка паліць,
То паэта годнасць
Топчуць,
бэсцяць,
ганяць.
Божа ж,
ты мой Божа,
Прасвятлі ім вочы,
Каб жа не блудзілі
Ані ўдзень,
ні ўночы.

А Ялінцы-кветцы
Шчасце дай і сілу,
Праз яе павага
К мове не загіне.

*04.12.2012 г.*

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

## Ну што, беларусы?

*Адна вучанічка на ўвесь Магілёў*
*Просіць душу ўратаваць ад загубы*
*Родную мовай... Ды пан з халуёў*
*Крывіць ва ўхмылцы пагардлівай губы.*
*Адно — на Гародню на ўсю — дзеўчанё*
*Просіць душу ўратаваць ад загубы*
*Родную мовай... Але чынаўё —*
*Ні вухам, ні духам! "Не мецьмем рахубы!"*

*Ну што, беларусы? Дайшлі-дажылі?*
*Думаем: Бог нам паможа праміль?*
*І на святой нашай роднай зямлі*
*Долю і волю дадуць нам граміль?*
*Ці дзвюх вучанічак да мовы любоў*
*Не дасць нам усім абярнуцца ў рабоў?*

2010, лістапад

Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу за мінулы месяц і выканаў пачэснае даручэнне – уручыў Сяргею Украінку дыплом ад Праўлення Маскоўскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі і Праўлення Саюза пісьменнікаў баталістаў і марыністаў Расіі, а таксама грамату ад магілёўскага Рускага культурна-асветніцкага таварыства. С.Украінка ўганараваны *"за ўнёсак у ваенна - патрыятычнае выхаванне моладзі і літаратурную спадчыну братэрскіх народаў Расіі і Беларусі і ў сувязі з "Сіманаўскімі чытаннямі – 2012"*.



Сяргей Украінка атрымлівае заслужаныя ўзнагароды

Далей М.Яцкоў праінфармаваў прысутных аб тым новым, што адбываецца ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў і магілёўскім аддзяленні, акрэсліў накірункі дзейнасці на бліжэйшую перспектыву і павіншаваў сябраў аддзялення з надыходзячымі Новым годам і Калядамі.

**Ала ЯЦКОВА.**

Фотаздымкі Алега Пячэнькі і Алы Яцковай.

№ 14 снежань 2012 г.

# Творы пераможцаў конкурсу "У адзінстве наша сіла"



Яўген КРЫЦКІ, *г. Мінск*

## СВЯТОЕ ЧАКАННЕ

*Апавяданне*

Паспрабуйце перакласці на іншую мову: «Святое чаканне». Вясковая настаўніца Лідзія Іванаўна маёй бабулі пераклала так: *«Святое ожидание»*. Прыслухаліся вясковыя жанчыны да перакладу, пагаманілі і не пагадзіліся. Бо не адчулі сакральнага сэнсу. Чакаць усе ўмелі.

— Страх хоць на адзін дзень з'ехаць з вёсачкі, а мо гаспадар вернецца з вайны. Што зноў размінёмся.

Так адказала бабка Ганна настаўніцы.

— Святое чаканне і ёсць святое чаканне. Ты паглядзі, Ліда, сонейка пахілілася на захад, але сваімі промнямі чапляецца за сосны. Гэта наш час, наша сонечная цеплыня. Некалькі хвілін лагоды і пяшчоты. Сонейка для нас зберагае хвілінаечку. «Марыля, а калі ўсю працу пераробім?» І што было адказаць сяброўцы?

Клалі на падол напрацаваныя рукі, падстаўлялі іх сонейку: грэйцеся, адпачывайце, набірайцеся моцы на заўтра. І чакалі, усё жыццё чакалі... Углядаліся ў даль, чакалі аўтобус з гораду.

Аднойчы карэспандэнт сталічнага часопіса завітаў да іх у вёсачку. Убачыў на лаўцы Марылю і Ганну і сфатаграфаваў. Праз паўгода атрымалі часопіс. А на вокладцы — так і сядзелі яны побач. Сонечныя промні датыкнуліся да тва-раў, перапляліся з глыбокім паву-ціннем зморшчынак, незвычайная сінь вачэй. І хоць бы адзін волас выбіўся з-пад просценькіх хустачак. У поглядзе — дабрыня, разгубленасць і сардэчная збянтэжанасць. Чаму мы?! Напрацаваныя рукі на квяцістым фартуху. І подпіс: «Святое чаканне». І невялікі тэкст — некалькі сказаў: *«Пакуль чалавека памятаюць — ён жыве. Нават калі на нябёсах, ён чуе размову. Размаўляйце з тымі, каго чакаеце»*.

* * *

Сонца астываючымі промнямі лагодна чапляецца за вяршыні сосен. На хвілінаечку. Не ўтрымалася і скацілася, закацілася.

— Ды і яно павінна адпачываць, — так заўважыў Марылін сусед Іван. — А мо ў Замошшы начуе... Хто яго ведае.

Шчыра ўсміхнуўся, быццам адкрыў для сябе нешта дагэтуль невядомае.

Некалькі хвілін стаяў побач з жанчынамі, абапіраючыся на касу.

— Напрацаваўся за дзень, аж кашуля мокрая, ды рука ад касы дрыжыць. Во, глядзіце, — Іван працягваў левую руку ўперад.

— Ды дзе пазногаць збіў?

— Касу адбіваў і як лупану па пальцы. Аж вылаяўся. Едрысь-карамысь яго...

Свеціцца чыстым унутраным светам усмешка старога.

— А Алёнка, унучачка, разбівае пакос, — колькі цяпла Іван уклаў у гэтае слова — «унучачка». — Паглядзіце, як спрытна. І адкуль у яе сялянскае ўменне? З гораду прыехала.

З рэчкі Ула ветрык на лёгкіх сваіх крылах данёс прыемную прахаладу. Недзе ўвесь дзень драмаў у травах і вось, разбуджаны першымі кроплямі расы, прачнуўся і прыняўся гойкаца, напаўняючыся духмянымі пахамі траў.

Не сыходзіць усмешка з твару Івана. Павярнуўся, падставіў твар ветрыку і адпачывае. Саромеецца перад жанчынамі, бо некалькіх зубоў ужо няма.

— Ну што, маладзіцы, пайду бульбачку маладую варыць, запрашаю. А Алёнка як любіць сырадой! Пакуль не вырасце — карову не прадам.

І пайшоў Іван дахаты. Моцна абапіраючыся на сваю касу, кульгае.

— Божа мой, — плясНула рукамі Марыля, — зусім сівы ўжо, жыццё прыцiскае да зямлі. Едрысь-карамысль яго!..

Засмяяліся жанчыны на лаўцы. Чакаюць, а мо хто сёння прыедзе з гораду на аўтобусе. Ды і кароўкі з пасты вяртаюцца.

* * *

Вёска ўсё памятае. І дрэннае, і добрае.

Тут жывая памяць.

— Чаму вы ўладам дазволілі ўзараць вясковыя могілкі? Вось тут яны былі.

Чалавек, які сышоў з аўтобуса, паказаў рукой на жытнёвае поле. Нахіляюцца каласы ў розныя бакі і на імгненне сінімі агеньчыкамі ўспыхваюць валошкі.

Ганна з Марыляй пераглянуліся, стараючыся ўцяміць, адкуль узяўся незнаёмец. І пра якія могілкі ён кажа. Нават не павітаўся. Па-гарадскому апранутыя, у капелюшы і пры гальштуку, прыгожая сарочка з кароткімі рукавамі. А вось твар... Нешта знаёмае... З юнацкіх гадоў. І тыя вухі — вось вухі-лапавухі.

— Гнат! Ты глянь, Марыля, Гнат вярнуўся! А казалі, загінуў.

— Не дачакалася гаротніца маці цябе, у дзевяноста дзявятым памерла. У яе галава моцна балела. Трэба ж так саданулсь у галаву яе. Нават забывалася, усё цябе чакала. Кароўку трымала... — Марыля цяжка ўздыхнула. Выцерла фартухам слёзку.

— Ды не плач ты па ім.

— Ды я, сяброўка, па Аксінні. Разам жа чакалі. Памятаеш хоць, як маці і бацьку клікалі? Думаеш, забыліся? А ты ў Іванавай нагі, што прастрэліў у вайну, запытай. Адкажа. Толькі не нападайся на вочы Івану, вунь яго вялікая хата. Пасля вайны адбудаваўся. Ты старую разам з сябрукамі-паліцаямі спаліў. «Камунякі, камунякі». А сам ты хто?.. А могілкі на тым канцы вёскі як былі, так і засталіся. Ідзі туды, мо магілу сваёй маці адшукаеш, мо сэрца падкажа. Там усе твае родныя пахаваны. Побач ляжаць і маці Івана, якую ты застрэліў, і твая маці. Ну а калі кветкі пакладзеш на чужую магілу, Гасподзь рассудзіў так, бо яны таксама чакаюць, каб да іх завіталі жывыя.

Евгений КРИЦКИЙ, 1960 г.р.



## ОЙ, ГОРЮШКО-ЕГОРУШКО

*Рассказ*

Как только приближается август, я не могу уснуть. До первой росы, до первых криков петухов не могу уснуть. Лежу и смотрю в потолок. Когда закрываю глаза, сразу же выплывают детские воспоминания 1941 года. Образы, ворующие спокойствие, заставляют учащённо биться сердце. И такое привычное слово «корвалол» среди ночи.

«Ой, горюшко-Егорушка», — слова деда Аркадия. Если трудно — так и скажет: «Ой, горюшко-Егорушка». Зло всегда оставляло на его чисто выбритом лице морщинки-шрамы.

— Эх, зачем Господу наша злость. Не руганью коня запрягают, а лаской, — пытался понять колхозную жизнь дед Аркадий.

— Мама, — пересохшими губами шепчет моя мама бабушке, — бери Женьку и бегите из дому. Зачем втроём ноги... — не успела договорить, как поперхнулась слезой бессилия.

— Да лежи ты, доченька, самолёты пролетели и не бомбят, — и бабка Марыля вытерла домотканым полотенцем слёзы маме.

— Я вот, Лидочка, два ведёрка воды поставила возле тебя. Если снаряд попадёт в дом, ты, унучак сразу на улицу, а я буду водичкой тушить, — бабка тяжело вздохнула, перекрестилась. — ...Господи, дай мне силы доченьку вытащить на улицу. Который год без движения. Ой, ножки, ножки, доченька!.. Ух, немчура проклятая, прилетели воронами!

И грозила своим маленьким кулачком в сторону леса. Я, лёжа на печи, у которой стояла мамина кровать, представлял, что там, за лесом, страшные, одетые во всё чёрное враги. И они приносят горе Егору и нам с мамой.

Ранним утром, когда пропел петух Василь, дед понёс ведро картошки красноармейцам, которые неделю назад расположили три маленькие пушки недалеко от деревенского кладбища. Хотел почистить, сварить, да бабка под руку:

— Скажи командиру, пусть подальше от кладбища свои пушки перетянут, или на другой бок деревни, или за лес. Зачем тревожить умерших. Хватит ли сил кресты поправить? Да и кому? Возвращайся, Аркадь, быстрей.

Ещё вчера молоденький командир ткнул пальцем в точку на карте:

— Вот здесь, дед, мы должны умереть, но танки не пропустим.

— Дурак ты, командир, кладбище немцам не нужно. Они обойдут Замошье — и на Красnолуки. Понимаешь, здесь лежат все мои родные. Нельзя войной их тревожить, грех. Как ровненько кресты стоят и чистенько у нас. Часовенку бы...Товарищ командир, ребят картошкой накорми.

— Ты что, дед, мы сами нарыли молоденькой. Ты бы нам огурчиков, а?.. Супранович, бойца — картошку чистить!

— Есть, товарищ командир! — откуда-то вынырнул рыжий боец, без гимнастёрки, с большим ножом в руке.

— У нас на финской сто грамм давали, иногда, правда. Так вот неси, дед. Старуха твоя под подолом прячет. Ведь деревню защищаем, а оводни едят. Самогона на дух не переносят, проверено.

— Ой, горюшко-Егорушка! Помилуй и спаси, Господи!

Дед Аркадий перекрестился. И растерялся: не знал, брать ведро или оставить здесь бойцам.

— Да забирай свою картошку. А вечером огурчиков и самогонки тащи...

— Боюсь, не успею. Ох, горюшко-Егорушка...

Через рожь, которая только стала по-настоящему наливаться солнцем, через васильки, цвет которых — цвет неба. Может, оттуда, с неба ночью придёт им смерть. Целостность мира от неправильного принятого кем-то решения рушилась. Как Лидочку, доченьку, вывести. На руках далеко не унесёшь... А может... ну, если здесь, у кладбища погибнуть собрались, зачем им тогда лошадь? Может, вернуться и попросить Орлика, за самогон попросить? Посажу Лидочку, унучка, старуху — и на Оршу, а там... Ой, горюшко-горе... А кто здесь кресты поправит...

Обернулся — и так защемило сердце от увиденного. Возле самого кладбища, на пригорке у пушек лениво возились бойцы. Недалеко паслись три лошади. Война-то уже вокруг. Сегодня-завтра она здесь...

Калитка и двери настежь. Мухи налетят. А Лидочка не может их отогнать. Безмятежно в будке от жары спасается Букет, только хвостик выпустил наружу. И около него — петух Василь, стоит, соображает, клюнуть или пожалеть друга.

Не чувствуют домашние звери беды. Может и обойдётся.

— Всё, Марыля, будем ночевать дома. Ты что около Лиды два ведра воды поставила?

— Мо дом загорится. Тушила бы. Тебя нет да нет...

— Ну-ну. На стол собери, картошку свари, вот, не взяли. Колхозную едят. Где накопать успели? Видать, за домом Фрола на поле...



Конкурс "У адзінстве наша сіла" праводзіўся ў рамках IX Сіманаўскіх чытанняў ( гл. "Дняпроўская Строма" № 13 ).



